# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№11 (270)
лістапад 2024

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету “Бацькаўшчына”

**У НУМАРЫ:**





Ніна Шыдлоўская



# КУЛЬТУРА – ТОЛЬКІ “ПРЫГОЖАЯ ДЭКАРАЦЫЯ ДА ПАЛІТЫЧНЫХ ПРАЦЭСАЎ”?

## ВЫНІКІ ДЫСКУСІІ ПРА БЕЛАРУСКУЮ КУЛЬТУРУ Ў ЭМІГРАЦЫІ

Вялікая канферэнцыя “Беларусь – Літва: у будучыню праз агульныя каштоўнасці” адбылася 2 снежня ў Вільні. Размаўлялі і пра культуру, што праўда, ужо пад фінал мерапрыемства. Хаця, як заўважаюць датычныя да гэтай сферы, пытанні светапогляду, самаідэнтыфікацыі ці не першасныя для беларусаў у вымушанай эміграцыі ды й не толькі.

Арганізатарамі прадстаўнічага мерапрыемства выступілі Фонд Конрада Адэнаўэра, Цэнтр еўрапейскіх даследаванняў імя Вільфрыда Мартэнса і Офіс Святланы Ціханоўскай.

Апошняя, чацвёртая, панэль канферэнцыі прайшла пад назвай “Культурныя сувязі як мост паміж Беларуссю і Літвой”, але, улічваючы, што ўдзельнікамі яе былі толькі беларускі, абмяркоўвалі не толькі беларуска-літоўскія стасункі ў гэтай сферы.

“Аднак мяне глыбока засмуціла сітуацыя, якую давялося назіраць. (…) Да гэтага часу ў зале засталася толькі чвэрць удзельнікаў, і, што яшчэ больш сумна, прадстаўнікоў літоўскага боку ўжо не было. Хацелася б зразумець, якія планы на гэтую панэль мелі арганізатары. На жаль, гэта не выглядае проста недарэчнасцю. Такое стаўленне нібы падкрэслівае, што культура – гэта нешта другаснае, прыгожая дэкарацыя да палітычных працэсаў. Але гэта памылкова.

Культура – гэта не дадатак, а аснова. Менавіта яна закладвае змены ў грамадстве, стварае ўстойлівыя сувязі і фарміруе каштоўнасці, на якіх будуецца дэмакратыя.

Таксама выклікаюць пытанні фармат і адсутнасць паўнавартаснага двухбаковага ўдзелу, што супярэчыць ідэі дыялогу. Размовы пра тое, што мы робім у галіне культурніцкага абмену, можна весці і за кубачкам гарбаты. Але калі канферэнцыя мае на мэце паўнавартасны двухбаковы дыялог, такія абмеркаванні павінны праводзіцца з раўназначным удзелам прадстаўнікоў дзвюх краін”, – гэта постканферэнцыйнае меркаванне ўдзельніцы дыскусіі, прадстаўніцы Беларускай Рады культуры Надзеі Гарэцкай.

Працяг на старонцы 4.

**Вільня**

# “ХОПІЦЬ ВЫЦІСКАЦЬ БЕЖАНЦАЎ!” – У ВІЛЬНІ ПРАЙШЛА АКЦЫЯ Ў ПАДТРЫМКУ ВАСІЛЯ ВЕРАМЕЙЧЫКА

У Вільні 22 лістапада ля будынка Еўракамісіі прайшла акцыя ў падтрымку былога ваяра палка імя Кастуся Каліноўскага Васіля Верамейчыка.

Арганізатарамі акцыі выступілі дабрачынная арганізацыя “Дапамога”, офіс Святланы Ціханоўскай ды нашыя дэмакратычныя структуры беларусаў Літвы.

Падчас акцыі арганізатары збіралі подпісы ў падтрымку Васіля Верамейчыка ды іншых беларусаў, каб накіраваць іх у ААН.

Кажа суарганізатарка акцыі Наталля Калегава:

– Мы сабраліся тут, каб прыцягнуць увагу Еўракамісіі да праблемаў, якія ёсць у беларусаў, і ў першую чаргу, вядома, Васіля Верамейчыка. Ён быў для шматлікіх тут прысутных блізкім таварышам, а для некаторых ён быў пабрацімам. І гэта агулам заклік да міжнароднай увагі сітуацыі з беларускімі змагарамі за дэмакратыю і правы чалавека.

На акцыю салідарнасці прыйшло каля 40 чалавек, бо менавіта на такую колькасць і падавалася заяўка. Кажуць удзельнікі акцыі:

– Хопіць выціскаць бежанцаў! Мы з сябрамі выступаем супраць той міграцыйнай палітыкі, якая праводзіцца Літвой. Яна ксенафобная і ставіць пад пагрозу жыцці шматлікіх людзей, якія спрабуюць пазбегнуць пераследу палітычнымі рэжымамі, у тым ліку з боку Беларусі. І мы хацелі выказаць сваю грамадзянскую пазіцыю

– Любая сістэма дэмакратычнай краіны мусіць працаваць на жыццё, свабоду і правы чалавека.




Мы таксама за нацыянальную бяспеку Літвы, таму што жывём у гэтай краіне, аднак усё ж такі большая ўвага да дэталяў і менш фармальны падыход не пашкодзіў бы, і мы за гэтага цяпер будзем стаяць.

Пасля акцыі ўдзельнікі наведалі могілкі Росы, дзе ўшанавалі памяць Кастуся Каліноўскага і іншых паўстанцаў. Іх парэшткі якраз былі перапахаваныя там пяць гадоў таму 22 лістапада.

racyja.com

# ФЕСТЫВАЛЬ БЕЛАРУСКАЙ ФАЛЬКЛОРНАЙ ПЕСНІ “БЕЛАРУСЬ СТАРАЖЫТНАЯ” Ў ВІЛЬНІ

Фестываль беларускай фальклорнай песні “Беларусь старажытная” прайшоў 9 лістапада ў Вільні. Яго ладзіла ўжо пяты раз Таварыства беларускай культуры ў Літве. На фестывалі выступілі 14 фальклорных калектываў і выканаўцаў фальклорных спеваў з Літвы, Польшчы і Латвіі.

Гасцей фестывалю віталі ў запісе палітыкі Зянон Пазняк і Сяргей Навумчык. А цырымонія пачалася з выканання двух гімнаў – гімна Беларускай Народнай Рэспублікі і гімна Літвы.

Як кажа кіраўнік Таварыства беларускай культуры ў Літве Аляксандр Адамковіч, асноўная мэта фестывалю – гэта захаванне беларускай традыцыйнай фальклорнай песні.

– Фестываль паўстаў у 2019 годзе, якраз тут, у Новай Вільні ў гімназіі Жарос. Тут яшчэ дырэктарам быў Дзмітрый Папоў. Тады прыехалі да нас палескія фальклорныя калектывы. Пазней пайшлі трошкі іншыя падзеі. Гэтыя гурты не змаглі ўжо прыязджаць да нас па розных прычынах. Фармат трошкі змяніўся, і тут стала неяк больш мясцовых і новых калектываў.




Прывітаць беларусаў прыйшоў і стараста сенюніі (самакіравання) Новай Вільні Юрый Грыдзюшка:

– Вельмі важна, што і сам фестываль у Новай Вільні, таму што многа жыхароў Новай Вільні маюць карані ў Беларусі і тут доўгі час жывуць, і ствараюць свой пэўны пласт культуры. У кожнай культуры ёсць свае цікавыя бакі, якія бясспрэчна ўпрыгожваюць агульную культуру.

Пяты фестываль беларускага фальклору ладзіўся ў Цэнтры культуры Новай Вільні. На яго завітала каля 150 чалавек. А перад гасцямі выступілі наступныя выканаўцы і гурты: “Тургелянка”, “Мальвы”, “АБРА”, “Язняле”, “Жэмерва”, “Лянок” (Віленская беларуская гімназія імя Ф. Скарыны), “Ойра”, “Беларускі цуд”, “Томан”, “Світанак”, Сяржук Доўгушаў ды іншыя.

racyja.com

навіны

# У ВАРШАВЕ АДБЫЛАСЯ ПРЭМ'ЕРА СПЕКТАКЛЯ "ОРДЭН БЕЛАЙ МЫШЫ" ПАВОДЛЕ АНТЫЎТОПІІ АРЛОВА

Канфлікт мастака і ўлады, вернасць уласным каштоўнасцям ці здрада ім для атрымання выгод тут і цяпер – спектакль на вечныя тэмы паставіла беларуская каманда тэатралаў у Варшаве. Прэм'ера па аднайменным творы пісьменніка Уладзіміра Арлова "Ордэн белай мышы", дапоўненая ўласнымі жыццёвымі гісторыямі акцёраў Ігара Сігова, Святланы Зелянкоўскай, Андрэя Бардухаева-Арла і Дзіяны Балыка.


Наша Ніва

Пісьменнік (Андрэй Бардухаеў-Арол) – характарны антыпод караля. Гэткі персанаж, якога ў творах уводзяць акурат дзеля нясення добрага і вечнага. Герой, які зможа супрацьстаяць злу і яго хітрасплеценаму павуцінню. Здавалася б, зло тут першапачаткова невыразнае: падумаеш, Кароль захацеў уручыць Пісьменніку найвышэйшую дзяржаўную ўзнагароду – ордэн белай мышы. Тут радавацца варта ды і толькі. Яно б і сапраўды так, толькі ў дадзеным выпадку атрыманне ордэна роўнае продажы сваёй душы і самой існасці.

Пісьменнік адмаўляецца ад найвышэйшай узнагароды і прывілеяў, каб не здрадзіць сабе і сваім ідэалам, што запускае чараду наступстваў – ад творцы вырашаюць пазбавіцца, выбіраючы з кучы сцэнароў, сярод якіх гучыць нават разыгрыванне суіцыду. Спасылкі на беларускія рэаліі з яе дыктатурай і помстай любым нязгодным відавочныя.

Зрэшты, менавіта такія выпрабаванні перажылі ўсе акцёры на сцэне – яны сцісла расказваюць пра гэта ў асабістых урэзках-маналогах, якія атрымліваюцца моцным дадаткам, працягам напісанага Арловым.

Святлана Зелянкоўская шчыра распавядае, як за інтэрв'ю, дзе яна пакрытыкавала закрыццё беларускамоўных школ, яе выклікалі на допыт, дзе прысутнічаў кіраўнік па справах прэзідэнта. Там ёй сказалі, што яна расчаравала Лукашэнку, прапанаваўшы загладжваць "віну" ў лазнях.

Акцёру Андрэю Бардухаеву-Арлу і яго жонцы пасля ад'езду з Беларусі за іх грамадзянскую пазіцыю помсцілі праз затрыманне сына. Драматург Дзіяна Балыка ў 2020-м падтрымала забастоўку акцёраў, за што хутка ператварылася ў забароненую аўтарку. Ігар Сігоў працягла аддаляўся ад палітыкі, але ў выніку зрабіў выбар ахвяраваць кар'ерай, але "не згубіць сябе" і застацца свабодным чалавекам.

Гэтыя шчырыя, балючыя маналогі-ўрэзкі адгукнуліся многім гледачам. Варта было проста зазірнуць у залу – там сядзелі дзясяткі творчых (і не толькі) людзей з падобным лёсам, якія апынуліся тут, у эміграцыі, таму што зрабілі такі самы выбар, як і героі спектакля. Таму, акурат, гэтыя асабістыя гісторыі ў выніку і сарвалі самыя гучныя апладысменты.

Акрамя таго, у адрозненні ад тэксту Арлова, які чытаўся акцёрамі, з большага, з лістоў паперы, уласныя гісторыі расказваліся наўпрост вочы ў вочы: гэты глядацкі кантакт, агулам найважнейшы інструмент у тэатры, дадаваў моцы гучанню словаў.

Канцоўка пастаноўкі атрымліваецца сімвалічнай: са сцэны гучаць вядомыя цытаты нашых літаратурных класікаў – пра Беларусь, пра нашы каштоўнасці. Ты бачыш, што яны жылі тымі ж перажываннямі і тым жа болем, што, з аднаго боку, дадае суму – мы зноў у той жа кропцы, а з другога – моцы: за намі ўся гэтая армія моцных, творчых галасоў і лёсаў, мы не адны.

Грошы на спектакль збіралі пры дапамозе краўдфандынгу. На жаль, з запланаваных і патрэбных 18 тысяч еўра з хвастом, атрымалася сабраць толькі частку – €3225 (11 622 рублёў), таму для акцёраў і тэхнічнай каманды праект стаў, па факце, валанцёрскім, без закладзеных ганарараў. Таму цяпер творцы заклікаюць гледачоў падтрымліваць іх "нагамі", купляючы квіткі на найбліжэйшыя паказы.

nashaniva.com

# У ВАРШАВЕ ПАКАЗАЛІ СПЕКТАКЛЬ "ВАСІЛЬ БЫКАЎ І ЯГОНЫЯ Д'ЯБЛЫ"

У Варшаве паказалі спектакль "Васіль Быкаў і ягоныя д'яблы". Падзея, прымеркваная да 100-годдзя з народзінаў пісьменніка, завяршыла фестываль Pradmova ў Варшаве.




Распавядае рэжысёр і акцёр пастаноўкі Васіль Дранько-Майсюк:

– Атрымалася па-добраму шумна, карнавальна, часам жорстка. І ў канцы ўвесь гэты карнавальны цырк, які мы тут рабілі, ён ператварыўся ў сапраўдны сур'ёз. Глядач, я спадзяюся, зразумеў, што за гэтай усёй вясёлай карнавальнасцю хаваецца рэальнае зло, рэальныя д'яблы, іх трэба ўмець разганяць. Быкаў здолеў у канцы спектакля разагнаць гэтых д'яблаў, проста знішчыць іх. Я вельмі хачу, каб і мы таксама тое ж самае зрабілі з нашымі д'ябламі.

Сярод акцёраў – Алена Баярава, Вольга Каралёнак і Маргарыта Якцевіч. Музыка Сяргея Пукста, мастацкае аздабленне Данілы Ганчарова. Паказ адбыўся ў Музеі Вольнай Беларусі.

racyja.com

# "КНІЖНАМУ ВОЗУ" ЧАТЫРЫ ГАДЫ

200 гадзін аўдыё і сотня кніг. Такі вынік чатырохгадовай працы.

Адна з аўтараў, акторка Крысціна Дробыш, апавяла пра апошнія навінкі:

– Мы выпусцілі "Алісу", што "скрозь люстэрка" – знакамітую казку Люіса Кэрала. Больш за тое, яна выйшла ў аўдыёверсіі з цудоўным музычным афармленнем, бо музыку пісала Вольга Падгайская. Таксама выйшла анімаваная версія з ілюстрацыямі Кацярыны Дубовік.

Слухаць беларускія кнігі можна праз спецыяльна створную аплікацыю ці наўпрост праз сайт knizhnyvoz.com.

racyja.com

навіны

# КУЛЬТУРА – ТОЛЬКІ “ПРЫГОЖАЯ ДЭКАРАЦЫЯ ДА ПАЛІТЫЧНЫХ ПРАЦЭСАЎ”?

Працяг са старонкі 1.

Але вернемся да ўласна панэлі, на якой вялося, улічваючы, што іншы бок не быў прадстаўлены, не толькі пра беларуска-літоўскія стасункі ў культурнай сферы, а і пра беларускую культуру ўвогуле – найноўшых, эміграцыйных часоў. Прыводзім найбольш заўважныя меркаванні.

### Мала ведаем адно аднаго

На думку Надзеі Гарэцкай, беларусам “немагчыма пабудаваць дэмакратычную супольнасць, усталяваць разнастайныя сувязі без першаснай працы ў культурным рэчышчы, працы са светапоглядам – гэта непасрэдна і ёсць задача культуры”.

Што да беларуска-літоўскіх культурных сувязяў, то тут “насамрэч маецца вялікі нерасчышчаны, нераскладзены па паліцах праблемны пласт, часам даволі хаатычны”.

“У шырокім плане ні літоўцы пра беларусаў, ні беларусы пра літоўцаў амаль нічога не ведаюць. Мы мусім гэта прызнаць і відавочна, што праблемныя пытанні так званага літвінізму выходзяць менавіта з гэтай прычыны, – лічыць прадстаўніца БРК. – Беларусы, якія жывуць у Літве, розныя. Гэта і прадстаўнікі нацыянальнай меншасці, і эмігранты да 2020-га, і цяперашнія эмігранты пасля 2020 года. Маюць розны статус, розныя правы і нават розны ўзровень доступу да тых падзей, якія адбываюцца ў Літве”.

Надзея Гарэцкая ўзгадвае нядаўні прыклад дыскрымінацыі, калі на вялікі юбілейны фэст літоўскай песні, “беларусаў, якія прадстаўлялі новую дыяспару, не дапусцілі да ўдзелу праз адсутнасць літоўскіх пашпартоў”.

Паводле Надзеі Гарэцкай, “такіх гісторый мы бачым усё больш і больш, што не спрыяе ўзаемасувязям, хоць культурніцкія ўзаемасувязі могуць стаць асновай для ўзаемапаразумення, нейкага ўзаемаабмену, і, скажам так, прыняцця літоўскім грамадствам гэтай новай хвалі беларускай эміграцыі”.

Старшыная Рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, каардынатарка кампаніі “Будзьма беларусамі!” Ніна Шыдлоўская заўважае: “У 2008 годзе мы стварылі грамадска-культурніцкую кампанію “Будзьма беларусамі!” дзеля ўзмацнення нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў, а ў 2012 годзе мы канчаткова асэнсавалі, што ў нашым грамадстве ў большасці людзей культура ўспрымаецца як баўленне вольнага часу”.

“То бок гэта канцэрты, выставы і гэтак далей – і толькі. І мы пачалі рабіць кампанію “Культура паляпшае жыццё” – з паездкамі па ўсёй Беларусі з розная кшталту імпрэзамі, даводзячы ўсім, што культура – гэта не толькі мастацкі складнік. Што культура – гэта ўвогуле пра тое, як мы камунікуем, як мы рэагуем на тыя ці іншыя падзеі, як мы ўзаемадзейнічаем паміж сабой у калектыве, увогуле, на якім светапоглядным грунце мы будуем сваё жыццё. І гэта для нас было і застаецца галоўным. То бок пра культуру, па сутнасці, прагаворвалася на ўсіх тых панэлях, якія гучалі тут ад раніцы, ад пачатку канферэнцыі. І вынясенне яе цалкам у асобную панэль, а не асобным пунктам у кожнай панэлі, сведчыць пра тое, што мы ўсё роўна – нават тыя, хто рухае ўсе справы наперад – успрымаем культуру, хутчэй, як нейкія там асобныя мастацкія праявы, нейкі творчы бок жыцця, асабістага ці ўсяго народа”, – зазначыла Ніна Шыдлоўская.

Наконт насцярожанай рэакцыі літоўскага грамадства на так званую новую дыяспару Ніна Шыдлоўская кажа, што літоўцаў можна зразумець: “Жывучы тут, у Літве, як многія беларусы паводзяць сябе ў стасунках паміж сабой? Калі літоўцы ў нашых размовах чуюць рускую мову, вось што яны могуць думаць: “Хто гэтыя людзі? Яны рускія? Ці ўкраінцы з Запарожжа? Хто яны?” Гэта напружвае літоўцаў. Я іх разумею, і я іх паважаю за гэта. Вось у мяне літоўцы пыталіся: “Беларусы, а чаму вы паміж сабой гаворыце па-руску, а не на сваёй мове? Як нам вас адрозніць? Мы ведаем, што ў асноўным сюды пераехалі людзі дэмакратычных поглядаў, але як нам вас вылучыць з рускамоўнага натоўпу, калі мы чуем вас у крамах, на вуліцах, бачым, што вы між сабой не ідэнтыфікуецеся?” Гэта пытанне да нас найперш. І колькі год мы даводзілі ўсім, што наша самаідэнтыфікацыя на грунце беларускай мовы, гісторыі і культуры – гэта наш паратунак як нацыі і як незалежнай дзяржавы”.


Надзея Гарэцкая

### Хто кім больш цікавіцца і хто каго больш разумее

Пытанне ўзаемадзеяння з культурнай сферай у Літве “для “беларусаў найскладанейшае”.

“Мне падаецца часам, што мы разумеем літоўцаў і ведаем пра літоўскую культуру больш, чым літоўцы пра нас. Гэта мы бачым у мясцовых арнаментах падабенства з нашымі ці чуем знаёмыя, агульныя матывы ў песнях, ці нешта нам блізкае ў манерах камунікацыі і традыцыях. А для літоўцаў мы, насамрэч, адкрыццё. Тут заўсёды была беларуская нацменшасць, якую запрашаюць да ўдзелу ў нейкіх канферэнцыях, фестывалях і г.д., але яна таксама вырасла на нейкіх савецкіх лубачных узорах, таксама не заўсёды навонкі даносячы сапраўдную аўтэнтычную культуру і сучасныя праявы беларускай культуры. Таму мы для літоўцаў – большая загадка, чым яны для нас. Самі сабой, сваёй наяўнасцю і дзейнасцю мы мусім іх уцягваць у свае кола, а не чакаць, што літоўцы раптоўна нас зразумеюць і намі зацікавяцца”, – лічыць Ніна Шыдлоўская.

З пункту гледжання беларускай рускамоўнай пісьменніцы Ганны Златкоўскай, літоўцам беларуская культура проста не цікавая: “Натхняць творчага чалавека можа што заўгодна. Досвед вымушанай эміграцыі, уцякацтва, жыццё ў новай краіне – гэта бясконцая рэфлексія, тут ёсць шмат старонак, якія можна абмеркаваць, якія можна напісаць. Пра якія можна гаварыць з тымі ж літоўцамі, калі ім гэта цікава. Але, на мой погляд, літоўцам зусім не цікавая ні наша культура, ні мы самі. Мы зрабілі ім такі кіндэр-сюрпрыз – краіна ў краіне. Мы абмяркоўваем адносіны Беларусі з Літвой, але ж якая гэта Беларусь? Не тая ж, якая знаходзіцца за 30 хвілін язды ад Вільні і ў якой можна адразу “прысесці” на 8 гадоў. Я гляджу, прадстаўнікоў Літвы на апошняй панэлі гэтай канферэнцыі тут ужо няма, не магу ў іх запытаць, наколькі беларусы і Беларусь увогуле ім цікавыя, наколькі цікавае тое, што мы робім, цікавыя нашы пісьменнікі, музыкі, акторы і г.д. Я так мяркую – мы ім нецікавыя, яны з насцярожанасцю ставяцца да нас”.

На думку ж сузаснавальніцы *CreateCulture Group* Надзеі Ількевіч, культурная дыпламатыя ад беларусаў мае шанцы на поспех у Літве: “Я пагаджуся, што культура – гэта не толькі выставы і канцэрты, але гэта і нашы адносіны з тымі людзьмі, з кім мы размаўляем, з кім узаемадзейнічаем. Так што давайце вывучаць і размаўляць з людзьмі гэтай краіны па-літоўску, давайце вывучаць літоўскую. Бо гэта, мне здаецца, такая базавая павага. Мы намагаемся рабіць праекты, каб беларусы былі бачныя фізічна ў літоўскіх фестывалях. Напрыклад, *International House Vilnius*, муніцыпальная арганізацыя, якая другі год запар робіць гарадскі фэст, дзе мы – адзіная беларуская арганізацыя-ўдзельніца. Мы робім вялікі стэнд-квіз пра беларускую культуру, але сёлета валанцёрамі на квізе ў нас экс-



Ганна Златкоўская

паты з Індыі, бо не знайшлося ахвочых да валанцёрства беларусаў.

Мне здаецца, вельмі важна адчуваць, што Вільня – гэта мультыкультурны горад, што Беларусь – гэта не асобная нейкі лапцік зямлі, а сапраўдная еўрапейская краіна, культура якой у тым ліку пераплятаецца з літоўскай.

То тым больш, калі мы будзем з літоўцамі нешта агульнае арганізоўваць, трэба спрабаваць размаўляць на літоўскай. Мы рабілі беларуска-літоўская музычную лабараторыю і супольны канцэрт на даху музея, які, дарэчы, не прыйшло здымаць ніводнае беларускае медыя, толькі літоўскі канал *LRT*. Яно прайшло міма беларусаў, а літоўцы вось дзякавалі за тое, што паказваем разнастайную сучасную культуру, між тым у нас там спявалі на беларускай, літоўскай, татарскай мовах. Мне здаецца, такая вось культурная дыпламатыя вельмі важная, бо культура пачынаецца якраз з такіх культурных сувязяў паміж людзьмі".

### Ёсць перспектывы

Нягледзячы на складанасці, апошні мчасам нейкае культурнае ўзаемадзеянне ўсё ж адбываецца.

"Найперш, на ўзроўні актыўнасцяў, – кажа Надзея Гарэцкая. – Беларускія мастакі, літаратары, магу сказаць, дастаткова шчыльна супрацоўнічаюць, выйшла некалькі анталогій, медыйшчыкі між сабой камунікуюць, ёсць фестывалі, куды пачалі запрашаць беларусаў. Мы ставім задачу перад БРК ладзіць супрацу на ўзроўні праграмавання гэтых актыўнасцяў. (...) Хочам запраграмаваць магчымасці на інтэграцыйныя працэсы, каб, у тым ліку, беларусы маглі без цяперашніх складанасцяў вывучаць на курсах літоўскую мову, каб былі праграмы на культурны абмен, на супольныя праекты".

Ніна Шыдлоўская згадвае традыцыйны фэст Міхася Стральцова, "у якім актыўна ўдзельнічаюць і літоўскія творцы, і творцы з іншых балтыйскіх краін сюды прыязджаюць, і са скандынаўскіх. Гэта ўжо добрая традыцыя. (...) Такія з'явы – гэта таксама адказнасць тых актыўных структур і арганізацый, якія асэнсоўваюць важнасць гэтага і, адпаведна, будуць гэта рабіць. А беларусам, нам, кожнаму асабіста, проста трэба быць больш актыўнымі ў гэтым, і прынамсі, калі не самому нешта ініцыяваць, то хаця б прыйсці паўдзельнічаць, каб падтрымаць тых, хто мае сілы гэта рабіць".

### А ці патрэбна інтэграцыя? І ці не вядзе яна да асіміляцыі

Ніна Шыдлоўская нагадвае, што "ўсё гэта з намі ўжо было, і не адзін раз было, асабліва моцна – падчас хвалі паваеннай эміграцыі, калі ў тым ліку і найперш па палітычных прычынах шмат хто выехаў з Беларусі".

"Пры ўсіх выпрабаваннях эмігранты стваралі ў краінах пражывання беларускія асяродкі, беларускія цэрквы, беларускія траставыя фонды, выдавалі літаратуру, газеты і г.д. Усё гэта ўжо было. Хацелася б, канечне, каб мы рабілі высновы з дзейнасці і жыцця нашых папярэднікаў (...) Я адэпт пастулату, па якім захаванне і развіццё нашай нацыі – гэта наша беларуская нацыянальная ідэнтычнасць, – сказала яна. – У 1990 годзе "Бацькаўшчына" была захаваная, працавала на тое, каб дыяспары захоўваліся і развіваліся, каб захоўвалася пераемнасць пакаленняў, каб беларусы ўнутры Беларусі даведваліся пра дасягенні, здабыткі беларусаў замежжа, пра тое, што ўвогуле існуюць беларусы, якія не з'язджалі з Беларусі, але жывуць на сваіх этнічных тэрыторыях".

Праблема паўстала ў іншым: "Нашы беларусы, не маючы падтрымкі нацыянальнай культуры ўнутры Беларусі, з'язджаючы за мяжу, вельмі хутка асімілёўваліся. Яны прыбіваліся, зноў жа ў першую чаргу па моўнай прыкмеце, да рускамоўных дыяспар, украінскіх дыяспар, да канца сябе не асэнсоўваючы беларусамі. Маўляў, навошта мне за мяжой прыналежнасць да нейкай беларускай нацыі, увогуле што гэта такое – беларуская нацыя? Нашы беларусы расцярушваліся, распушчаліся ў іншых нацыях. Столькі зроблена інтэлектуальнага ўнёску ў справу іншых нацый, не вызнаючы свае беларускія карані. Для краін пражывання – гэта файна, для нас, для беларускай нацыі – гэта вялікія страты. І толькі зараз многія асобы пачынаюць адкрываць, што яны мелі беларускія карані. А гэта нам важна – як прадмет для гонару. Кожнаму чалавеку хочацца ганарыцца сабой, сваімі дасягненнямі, сваёй сям'і, сваёй нацыяй найперш. І адпаведна прасоўваць і рухаць сябе ў гэтым рэчышчы", – зазначыла Ніна Шыдлоўская.

"Таму асіміляцыя для беларусаў – гэта страшна. Мы дужа хутка паддаемся. Па розных прычынах – тут можна лекцыі чытаць на тэму, чаму так адбывалася і зараз адбываецца. А вось інтэгравацца ў тых грамадствах, дзе мы апынуліся, – тут я для беларусаў увогуле не бачу праблемы.

На літоўскіх моўных курсах выкладчыкі кажуць, што асноўны склад груп – гэта беларусы і ўкраінцы. Рускіх практычна няма, не буду ўдавацца ў прычыны, але няма. Згадзіцеся, беларусам на Віленшчыне можна выжыць, не ведаючы літоўскай, але ў нашу ДНК умантавана павага да іншага. І жывучы на гэтай зямлі, мы ўжо пачынаем яе вывучаць. Людзей, мову, культуру, звычаі, манеры і традыцыі.

Нам літоўская зямля больш цікавая з пункту гледжання даведвацца штосьці новае, чым мы тым самым літоўцам.

Таму – беражыцеся асіміляцыі і заклікаю да інтэграцыі", – падкрэсліла Ніна Шыдлоўская.

Рыгор Сапежынскі, budzma.org

# ЦІХАНОЎСКАЯ СУСТРЭЛАСЯ З ДЫЯСПАРАЙ МАНРЭАЛЯ

Падчас працоўнага візіту ў Канаду беларуская лідарка сустрэлася з дыяспарай Манрэаля. Да сустрэчы, арганізаванай Згуртаваннем беларусаў Канады, далучылася больш за 60 чалавек.

Падчас размовы абмеркавалі:

- дзейнасць дыяспары, у тым ліку – праграмы падтрымкі палітвязнаў;
- планы дзеянняў на "бязвыбары2025" Лукашэнкі;
- рашэнні праблемаў легалізацыі і пратэрмінаваных пашпартоў;
- падтрымку ініцыятывы "Эстафета салідарнасці" з палітвязнямі;
- праграмы па ўмацаванні нацыянальнай ідэнтычнасці;
- каардынацыю працы беларускіх дыяспар;
- адносіны Беларусі з Украінай.

Святлана Ціханоўская: "Сустрэча з вамі напоўніла мяне пазітыўнымі эмоцыямі і цеплынёй. Беларусы замежжа – гэта наш моцны тыл, нашая надзея і прыклад таго, як можна захоўваць адзінства і любоў да радзімы нават на адлегласці. Кожная вашая ініцыятыва, кожны крок салідарнасці – гэта падтрымка для тых, хто сёння за кратамі, і для ўсіх, хто марыць пра свабодную Беларусь. Я шчыра ўдзячная вам за гэтую сустрэчу, за вашую працу і за тое, што Беларусь застаецца ў вашых сэрцах".

tsikhanouskaya.org



навіны

# Беларускамоўная школа ў Грузіі: ёсць сям’я, якая дзеля адукацыі па-беларуску прыехала з Польшчы

Беларусы ў Грузіі стварылі афіцыйную беларускамоўную школу ў Грузіі. Як гэта стала магчыма, у чым плюсы і мінусы грузінскай адукацыі?


Аксана Акуневіч

Аксана Акуневіч, заснавальніца шматфункцыянальнай беларускай прасторы “Аксяродак” і беларускамоўнай школы ў Батумі расказвае, як атрымалася заснаваць у Грузіі беларускамоўную школу, дзе можна атрымаць афіцыйны атэстат краіны.

Аксана тлумачыць, што гэта афіцыйная офлайн-школа, у якой дзве часткі – грузінская і беларуская. Тры разы на тыдзень дзеці прыходзяць у беларускую школу ў “Аксяродак”, у іх “беларускія дні”, усе агульнаадукацыйныя прадметы выкладаюць на беларускай мове, а два разы на тыдзень – дзеці ходзяць у грузінскую школу.

– Грузія як краіна дазваляе навучацца на розных мовах. Няма патрабавання, напрыклад, як у Польшчы, што гэта можа быць толькі дадаткова мова нацыянальных меншасцяў.

Туды ж, у грузінскую школу, мы вынеслі ўсе замежныя мовы. Гэта англійская, якая абавязковая ў Грузіі для ўсіх, і французская, бо сама школа-партнёр французская. Цяпер у нас вучацца дзеці з першага па дзявяты клас, гэта 24 чалавекі. У абсалютных лічбах гэта не так і многа, але гэта ў тры разы больш, чым было летась, – тлумачыць Аксана Акуневіч.

Яна распавядае, што імкнецца выкарыстоўваць у школе падыходы дэмакратычнай школы, гарызантальныя адносіны паміж вучнямі і настаўнікамі, “каб былі і дзеці сучаснымі, і, калі нешта зменіцца, рабіць будучыню для новай Беларусі”.

У Грузіі Балонская сістэма адукацыі. Кадравы падыход палягае ў тым, што педагагічнай адукацыі як такой няма. Напрыклад, чалавек сканчвае нейкі ўніверсітэт і пасля давучваецца ў магістратуры на педагогіцы. Але ў Грузіі магістарскія дысертацыі абараняюць у прамым сэнсе слова адзінкі.

– У Грузіі з 2008 года было абаронена каля дзесяці дысертацый па педагогіцы. У нас ёсць прафесійныя настаўнікі, хто вывучаў педагогіку. Але ёсць і настаўнікі, якія, напрыклад, скончвалі БДУ, маюць моцную падрыхтоўку па іншых прадметах. І педагагічную падрыхтоўку, метадычную падтрымку мы ім забяспечваем, плюс запрашаем спецыялістаў.

Я ехала ў Грузію пісаць навуковую кандыдацкую працу, мая кіраўніца – грузінка. Так склалася, што ў Грузіі дзяржаўны сектар з невялікімі прыбыткамі. У школе хапала педагогаў са старой падрыхтоўкай, а потым не было патрабавання абараніць магістарскую,к аб працаваць настаўнікам. Напрыклад, я шмат вывучала сістэму адукацыі ў Фінляндыі. Калі рабілі рэформу сістэмы адукацыі то прыйшлі да высновы, што калі ёсць намер развіваць навуку, то і настаўнікі, і нават выхавацелі ў садках мусяць напісаць хаця б адну навуковую працу. У Грузіі, нягледзячы на тое, што яшчэ з часоў СССР заставалася моцная акадэмічная сфера, але грошай на навуку цяпер няма. Таму няма запыту ад дзяржавы, няма запыту ад людзей, – падкрэслівае суразмоўца.

Разам з тым Аксана гаворыць, што ідэя з беларускай школай была даўно, але не было партнёра – мясцовай школы, каб усё было менавіта афіцыйна, а не як дадатковыя пазашкольныя заняткі.

– У мінулым годзе мы шукалі магчымасць адкрыць беларускую школу, былі сустрэчы на розных узроўнях, у тым ліку ў парламенце, з амбудсмэнам, але ніхто не пагаджаўся (сярод грузінскіх школ).І раптам у верасні ўжо пасля пачатку навучальнага года, а ён пачынаецца туту пасля 15-га верасня, знайшлася школа, якая пагадзілася на гэта. Я адкрывала школу, разумеючы, што ўсе ўжо знайшлі дзе ім вучыцца, але нельга было адмаўляцца ад такой магчымасці. Летась у нас было восем чалавек, а сёлета ўжо 24. То бок у тры разы больш. Летась мы набіралі да шостага класа, каб паглядзець, адпрацаваць працэсы, сёлета былі гатовыя набіраць ва ўсе класы, але запыт быў ад вучняў толькі да дзявятага класа.

### Лагічнае пытанне: хто і чаму ідзе вучыцца па-беларуску?

– Кожная сям’я мае свае матывы, ёсць тыя, каму прынцыпова навучанне на беларускай мове. Ёсць сям’я, якая адмыслова дзеля адукацыі пабеларуску прыехала з Польшчы. То бок яны выехалі з Беларусі ў Польшчу, пажылі там і прыехалі адмыслова ў Батумі. Мае дзеці вучыліся ў англійскай школе, але там вельмі шмат рускамоўных дзяцей, ад іх яны вывучылі рускую мову, дарэчы, плюс гэтая школа не вельмі моцная ў пачатковых класах. Ёсць тыя, хто прыйшоў паспрабаваць, працуе “сарафаннае радыё”. Ёсць і тыя, каму не падыходзіць наш падыход. Пасля пачатку навучальнага года сышоў адзін вучань, бо, відаць, ім быў незразумелы падыход без строгіх рамак, з рэфлексіяй кожны дзень. У нас беларускія танцы, як абавязковы прадмет. Многа незразумелага, да чаго непрывычныя беларусы як сістэмныя людзі. Хтосьці прыходзіць за гэтым, а хтосьці кажа “не наш фармат”.

Грузінская сістэма адукацыі ўпісаная ў Балонскі працэс, то бок для прызнання атэстату будзе дастаткова перакладу дакументаў. Але ў грузінскай школе, як і ў грамадстве, шмат цеплыні паміж настаўнікамі і дзецьмі. Гэта тое, што не працуе ў паўночных краінах.

Аксана згадвае, як у Беларусь прыязджаў псіхолаг, педагог з Грузіі Шалва Аманашвілі. І яго падыходы для некаторых выглядалі амаль як парушэнне заканадаўства. Крыху патлумачым, Шалва Аманашвілі распрацаваў канцэпцыю гуманнай педагогікі – гэта адукацыйная канцэпцыя, накіраваная на павазе да асобы вучня, яго эмацыйным і сацыяльным развіцці, арыентацыі на чалавека як на ўнікальную асобу.

– У Грузіі настаўнікі абдымаюць дзяцей. Гэта знешняя цеплыня ў прынцыпе грамадствам. З мінусаў – грузінская адукацыя не арыентаваная на сур’ёзны вынік. Агульны падыход “боўтайцеся самі”, усё грамадства такое, дзяржава не бярэ адказнасць за цябе як дарослы. У гэтым ёсць плюсы, і мінусы. Тут не працуюць сацыяльныя ліфты, таму, калі заставацца назаўсёды ў Грузіі, то магчыма былі б з гэтым пытанні. Але Грузія ўвесь час змяняецца, тут будучыню прадказваць яшчэ складаней, чым у Беларусі.

Адзначым, што школа прыватная і заняткі ў ёй платныя.

вх, polskieradio.pl

навіны

# АЛЕСЬ АДАМКОВІЧ ПРА ДЗЕЙНАСЦЬ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ

Працяг навуковай дзейнасці, арганізацыя Фестывалю беларускай культуры, абмен досведам паміж вучнямі Бельска-Падляшскага і Вільні.



Усё гэта пра бягучыя справы Таварыства беларускай культуры ў Літве, – навінамі падзяліўся старшыня арганізацыі Алесь Адамковіч:

– Самы важны кірунак – гэта праца сярод беларусаў Літвы. Два апошнія мерапрыемствы ––гэта былі: мастацкі пленэр беларускіх мастакоў, а на мінулым тыдні быў прыезд вучняў з беларускага ліцэя імя Тарашкевіча з Бельска-Падляшскага. Была арганізавана наша сустрэча, было некалькі важных сустрэч. У беларускай гімназіі ў Вільні з вучнямі, у мэрыі Віленскага раёна, на тэрыторыі якога нарадзіўся Браніслаў Тарашкевіч. З кіраўніцтвам дэпартамента нацыянальных меншасцяў. Зараз рыхтуемся да ўжо пятага Фестывалю беларускага фальклору.

**– Ці можна было б падагульніць вынікі прыезду вучняў з Бельска-Падляшскага?**

– Сустрэча была пачаткам ці падмуркам нашага далейшага супрацоўніцтва. Мы пабачылі, што вельмі шмат супольнага, што звязвала і звязвае Бельск і Вільню, вучняў з Бельскага ліцэю ды сам ліцэй і Вільню. Акрамя імя Браніслава Тарашкевіча, якога я згадаў, тут у Вільні знайшоў вечны спачын дырэктар Бельскага ліцэю Антон Тыміньскі. Зараз дзякуючы гэтай паездцы, высветлілася яшчэ больш. Аказваецца адна з сяброўак нашага таварыства, якая актыўна ўдзельнічае, яна з'яўляецца пляменніцай Антона Тыміньскага. Таму бачым, што такія сувязі ёсць, даволі шчыльныя сувязі. Таксама імя наступнага дырэктара Яраслава Кастыцэвіча, таксама звязана з Вільняй. Віленская духоўная семінарыя, якая шмат настаўнікаў падрыхтавала для гэтага ліцэю. Таму такія важныя вынікі, якія сведчаць пра нашу агульную беларускасць. Думаю, што прыезд ліцэістаў дапамог ім умацавацца ў беларускасці, пабачыць што беларускасць прадстаўлена і ў іншых краінах таксама. Важна пабачыць, што беларусы ёсць і яшчэ дзесьці.

**– Ці вядомыя падрабязнасці арганізацыі Фестывалю беларускай культуры?**

– Пяты фестываль пройдзе ў Новай Вільні, традыцыйна, дзе і пачаўся. Гэта раён Вільні, дзе пражывае найбольш беларусаў, таму гэта месца выбрана не выпадкова. Будзе ўдзельнічаць каля 12 калектываў, зараз дакладна не скажу. Большасць будзе, вядома, беларускіх калектываў з Вільні, але будзе і гурт з Тургеляў гурт "Тургелянка", які спявае захаваныя мясцовыя беларускія песні. Будзе ўкраінскі гурт з Коўна, далучаецца латышскі гурт Abra. З Польшчы традыцыйна прыедуць "Жэмэрва" і "Осочнікі". Таксама далучыцца Сяржук Доўгушаў.

**– Якім чынам за апошні час папоўніліся фонды Таварыства беларускай культуры?**

– У асноўным гэта кніжкі. Таксама гэта архівы віленчукоў. Калі памёр Павел Саўчанка, то ягоны сын нам перадаў усе ягоныя рукапісы. Таму па-трошкі папаўняемся. Самае галоўнае, фонды папоўніліся 15 новымі карцінамі беларускіх мастакоў, якія засталіся ў нас пасля пленэру.

ТБК ў Літве было створана яшчэ ў 1989 годзе. Арганізацыя адраджае беларускую культурную спадчыну ў краіне-суседцы.

racyja.com

# СВЯТКАВАННІ З ТРЫВОГАЙ, ШТО БУДЗЕ ДАЛЕЙ

28-29 верасня адбыўся V З'езд выпускнікоў Агульнаадукацыйнага ліцэя з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы разам са святкаваннем яго 75-годдзя. Афіцыйная частка ў спартыўнай зале распачалася з дзяржаўнага польскага гімна і школьнага "Люблю наш край, старонку гэту". Ва ўрачыстасці ўзялі ўдзел выпускнікі і вучні ды настаўнікі ліцэя, прадстаўнікі мясцовых уладаў, шматлікіх устаноў, беларускіх арганізацый, палітыкі і духавенства. Вядучымі былі выпускніца Ілона Карпюк (намесніца дырэктара Цэнтра беларускай культуры ў Беластоку) і настаўнік беларускай мовы Ян Карчэўскі.



Дырэктар Гайнаўскага белліцэя і ўдзельнікі афіцыйнай часткі

У артыстычнай частцы галоўным чынам выступілі выпускнікі. Пасля былі выступленні гасцей з пажаданнямі з нагоды юбілею. Прадстаўнікі Святланы Ціханоўскай Павел Латушка і Аліна Коўшык ўручылі дырэктару Ігару Лукашыку медаль "Гонар і годнасць" за ўнёсак у захаванне і папулярызацыю беларускай мовы, перадалі таксама кнігі сучасных беларускіх аўтараў у бібліятэку ліцэя. Латушка ў сваім выступе сказаў: "Вы для нас, беларусаў з Беларусі, з'яўляецеся зоркай на шляху беларускасці, якая для мяне як міністра культуры і амбасадара была заўсёды прыкладам стаўлення да захавання нацыянальных каранёў, роднай мовы, культуры, веры. Дзякую вам за тое, што вы робіце для беларускасці тут, у Польшчы".

У выступах гасцей цёплых слоў было вельмі шмат. Пра ўклад Гайнаўскага белліцэя ў шматкультурнае Падляшскае ваяводства, нават культурнасць Еўропы. Тымчасам гэты беларускі ліцэй апынуўся пад пагрозай перастаць быць беларускім ліцэем. Трывога, што будзе далей – гучала ў выступах дырэктара школы і прадстаўнікоў беларускага асяроддзя. Сваю занепакоенасць выказаў таксама мітрапаліт Сава, якога ліст на беларускай мове быў зачытаны.

На жаль ,прадстаўнікі дзяржаўнай улады ды кураторыі на святкаванні чамусьці не з'явіліся. Магчыма, няёмка ім было б слухаць гэтыя горкія словы, паколькі дзяржаўныя ведамствы менавіта давялі да таго, што два белліцэі на Падляшшы – Бельскі і Гайнаўскі – апынуліся ў сітуацыі, калі закон, што абавязваў дзясяткі гадоў, раптам стаў няважным. Статут гэтых школ дагэтуль прадугледжваў, што кожны вучань павінен вывучаць беларускую мову.

Агульнаадукацыйны ліцэй з дадатковым навучаннем беларускай мовы быў заснаваны ў 1949 годзе ў выніку актыўнасці саміх беларусаў. Хутка для Гайнаўшчыны стаў ён апірышчам беларушчыны. За 75 гадоў школу закончылі тысячы вучняў. Цяпер іх 320 у 13 класах.

V З'езд выпускнікоў завяршыўся ўсяночным балем, а пасля было яшчэ супольнае вогнішча.

czasopis.pl

навіны

# БЕЛАРУСКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ ЗАКЛІКАЛІ ЎЛАДЫ ЭСТОНІІ НЕ АТАЯСАМЛІВАЦЬ БЕЛАРУСАЎ З РАСЕЙЦАМІ

Асацыяцыя беларускіх арганізацый Эстоніі заклікалі дэпутатаў эстонскага парламенту спыніць атаясамліванне беларусаў з расейцамі.

Як паведаміла выданне news.err.ee, адпаведны пісьмовы зварот беларусы перадалі кіраўніку Групы падтрымкі дэмакратычнай Беларусі ў Рыйгікогу (парламент Эстоніі. – РС) з нагоды разгляду ў парламенце праекта закону аб пазбаўленні права грамадзян Беларусі, якія жывуць у Эстоніі на падставе сталага дазволу на пражыванне, удзельнічаць у выбарах органаў мясцовага самакіравання.


Акцыя ў падтрымку дэмакратычнай Беларусі ў Таліне ў кастрычніку 2020 году

У звароце адзначаецца, што такое атаясамліванне "негатыўна адбіваецца на ўспрыманні беларускай дыяспары ў эстонскім грамадстве і стварае шматлікія праблемы ў іх жыцці".

Прадстаўнікі беларускіх арганізацый адзначылі, што Беларусь знаходзіцца пад аўтарытарным рэжымам і дзейнічае як дзяржава-агрэсарка ў часе поўнамаштабнага ўварвання Расеі ва Украіну, але большасць беларусаў не падтрымліваюць гэтыя дзеянні ўладаў краіны.

"Лічым, што аўтаматычнае прыраўноўванне грамадзян Беларусі ў Эстоніі да грамадзян Расеі ў большасці выпадкаў неапраўданае. Яно не звяртае ўвагі на ўнікальныя аспекты беларускай дыяспары ў Эстоніі, фактычна адмаўляючы ў існаванні асобнай беларускай нацыі са сваёй дзяржаўнасцю, гісторыяй і культурай, падтрымлівае шавіністычны міф пра „братэрскія народы" (старэйшых і малодшых братоў). Такая эквівалентнасць іграе на руку расейскай прапагандзе, фактычна залічваючы беларусаў да „русского мира"", – адзначаецца ў звароце.

Беларусы прапанавалі размежаваць законапраекты, у якіх уводзяцца абмежаванні адначасова для грамадзян Беларусі і грамадзян Расеі. Паводле іх, цяперашняя сітуацыя прыводзіць да ўвядзення абмежаванняў у правах, якія часта выходзяць за рамкі санкцый, ухваленых урадам Эстоніі датычна да беларускіх грамадзян – напрыклад, пры адкрыцці банкаўскіх рахункаў, працаўладкаванні або пошуку партнёраў для супрацоўніцтва.

У звароце падкрэслілі, што цяпер у Эстонію і краіны Еўрасаюза ўцякаюць IT-спецыялісты, лекары, маладыя навукоўцы, а таксама прадстаўнікі навуковых колаў і бізнэсу, якія могуць прынесці карысць эстонскай эканоміцы.

"Мы лічым, што санкцыі павінны быць накіраваны непасрэдна супраць дыктатарскага рэжыму ў Беларусі, а не супраць грамадзян Беларусі, якія пражываюць у Эстоніі. Эфектыўныя меры ўключаюць, напрыклад, абмежаванне гандлёвых патокаў, увядзенне персанальных санкцый супраць чыноўнікаў і іх сваякоў, а таксама падтрымку незалежных СМІ ў барацьбе з прапагандай", – заявілі беларускія арганізацыі.

20 лістапада Рыйгікогу Эстоніі падтрымаў у першым чытанні праект закону, які прадугледжвае абмежаванні для грамадзян трэціх краін, у тым ліку Беларусі і Расеі, на ўдзел у выбарах органаў мясцовага самакіравання.

Паводле ацэнак Асацыяцыі беларускіх арганізацый у Эстоніі, у гэтай краіне на сталай аснове жывуць ад 1000 да 2000 беларусаў.

svaboda.org

# ПЕРШАЕ ПАСЕДЖАННЕ ГРАМАДСКАЙ ІНІЦЫЯТЫВЫ ПА АХОВЕ МАГІЛ БЕЛАРУСКІХ ДЗЕЯЧАЎ У БЕЛАСТОКУ

18 лістапада ў Беластоку адбыўся Устаноўчы сход Грамадскай ініцыятывы па ахове магіл беларускіх дзеячаў у Беластоку. Сярод іншага была абмеркавана сітуацыя з магіламі беларускіх дзеячаў на праваслаўных могілках Усіх Святых у Беластоку.



Вынікі сустрэчы прадставіў ініцыятар ідэі сходу, краязнаўца Аляксей Трубкін: "Было вырашана, што збор будзе ажыццяўляцца пад эгідай Беларускага Гістарычнага Таварыства, каб усё было празрыста і было бачна колькі сабралі і колькі засталося".

Кажа ўдзельнік сустрэчы, прадстаўнік Беларускага Гістарычнага Таварыства, прафесар Алег Латышонак: "Памяць пра нашых герояў вельмі важна захаваць. Вельмі цешуся, што беларусы, якія прыехалі ў Беласток, гэтым цікавяцца. Гэта надзея, што і пра нашы магілы хтосьці задбае".

racyja.com

## Беларускі каляндар памятных дат на снежань 2024 года

**1 снежня**
• 105 гадоў таму, у 1919-м, памёр Вандалін Шукевіч, археолаг, этнограф.

**2 снежня**
• 145 гадоў таму, у 1879-м, нарадзіўся Фелікс Стацкевіч, выдавец. Памёр у 1967-м.

**3 снежня**
• 110 гадоў таму, у 1814-м, нарадзіўся Іосіф Гашкевіч, мовазнавец. Памёр у 1875-м.

**7 снежня**
• 200 гадоў таму, у 1824-м, нарадзіўся Юльян Бакшанскі, камандзір паўстанцкага атрада ў 1863 годзе. Загінуў у 1863-м.

**8 снежня**
• 110 гадоў таму, у 1914-м, нарадзіўся Часлаў Сіповіч, рэлігійны дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі. Памёр у 1981-м.
• 55 гадоў таму, у 1969-м, памерла Ванда Лявіцкая (па мужу Лёсік), пісьменніца.

**10 снежня**
• 450 гадоў таму, у 1574-м, нарадзіўся Мікалай Ланчыцкі, тэолаг. Памёр у 1653-м.

**12 снежня**
• 210 гадоў таму, у 1814-м, нарадзіўся Адам Завадскі, выдавец. Памёр у 1875-м.

**15 снежня**
• 30 гадоў таму, у 1994-м, памёр Уладзімір Калеснік, літаратуразнавец, празаік.

**16 снежня**
• 225 гадоў таму, у 1799-м, нарадзіўся Ян Баршчэўскі, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры. Памёр у 1851-м.

**17 снежня**
• 135 гадоў таму, у 1889-м, нарадзіўся Даніла Васілеўскі, гісторык, літаратуразнавец. Памёр у 1963-м.

**21 снежня**
• 55 гадоў таму, у 1969-м, памёр Аляксей Шудзейка, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**22 снежня**
• 160 гадоў таму, у 1864-м, памёр Міхаіл Балінскі, гісторык.

**24 снежня**
• 120 гадоў таму, у 1904-м, нарадзіўся Алесь Дудар (сапр. Дайлідовіч Аляксандр), паэт. Расстраляны ў 1937-м.

**25 снежня**
• Каляды (Божае Нараджэнне), паводле грыгарыянскага календара.
• 105 гадоў таму, у 1919-м, нарадзіўся Кастусь Мярляк, дзеяч эміграцыі ў Аргенціне і ЗША. Памёр у 2007-м.

**29 снежня**
• 140 гадоў таму, у 1884-м, памёр Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, класік беларускай літаратуры.

**Беларусы ў свеце**
№ 11 (270), лістапад 2024
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com